№ 5 (4360)

18 студзеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ПАД ГРАДУСАМ**

## Маразы ідуць!

**У суботу і нядзелю** 19 і 20 студзеня чакаецца невялікі мароз, днём на большай частцы тэрыторыі кароткачасовы снег, галалёдзіца. Уначы -3…-9°С, месцамі пры праясненнях да -10…-12°С. Днём чакаецца ад 0 да -6°С, паведамляе belta.by.

**У панядзелак** 21 студзеня ноччу -3…-10°С, пры праясненнях пераважна па поўдні краіны -11…-14°С. Днём будзе -2…-9°С.

**У аўторак** 22 студзеня днём -3…-10°С.

**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

# Як адвязацца ад Масквы?

Сёння ў многіх ужо прайшоў шок ад снежаньскага ўльтыматуму Масквы, якая дэ-факта паставіла пытанне пра інкарпарацыю пад маркай выканання саюзнай дамовы.

Беларускае кіраўніцтва ўпёрлася рогам, што зразумела. І цвярозы розум падказвае, што як бы ў Крамлі ні крывіліся, але заўтра Пуцін на танку сюды не прыедзе. І нават эканамічнай катастрофы не будзе. Магчымыя страты беларускага бюджэту, калі Расія не дасць кампенсацыю за свой падатковы манеўр, складуць сёлета 300–400 мільёнаў долараў. Не смяротна.

Яшчэ болей: няма ліха без дабра. Беларускія ўлады доўга адбрыкваліся ад эканамічных рэформаў. І пакуль мелі неблагі маскоўскі грант, то нават пры застоі, кансервацыі саўковай мадэлі гаспадарання маглі забяспечваць электарату такі-сякі дабрабыт.

Але дурніца скончылася, прычым назаўсёды. Хоць Масква нібыта і адмаўляе імперскія намеры, але першы віцэ-прэм’ер РФ Сілуанаў фармулюе празрыста: *“Даваць субсідыі прадпрыемствам чужой краіны дзіўна было б”*. Карацей, дылема такая: або, кажучы словамі Лукашэнкі, прадаваць суверэнітэт за бочку нафты, або…

Вось пра другі варыянт беларускае кіраўніцтва пакуль што маўчыць. Гучаць толькі заклікі лепей працаваць, эканоміць, знаходзіць рэзервы. Але гэтага мала. Бо сапраўдная альтэрнатыва, калі мы хочам захаваць краіну, – ладзіць рэформы і за кошт іх спакваля адвязвацца ад Расіі.

Глядзіце: шмат гадоў яе энергетычныя субсідыі ішлі ў значнай ступені на пракорм пражэрлівых, але неэфектыўных монстраў сацыялістычнай індустрыі. На падтрыманне старой эканамічнай мадэлі, што сфарміравалася ў той час, калі БССР была зборачным цэхам Савецкага Саюза. Калі мы зменім мадэль, то адпадзе патрэба выпрошваць у Масквы паболей нафты і газу са зніжкай.

Краіны Балтыі ў свой час вытрывалі энергетычную блакаду і даўно купляюць энерганосьбіты па сусветных цэнах. Так, рай не збудавалі, але ж і не прапалі як рудая мыш. А галоўнае – Крамлю не кланяюцца і ўльтыматумаў ад яго не атрымліваюць. Гэта кошт свабоды, незалежнасці. Настаў час і беларусам плаціць за незалежнасць. Сёння – момант ісціны і для эліт, і для шырокага грамадства.

Вядома ж, эканамічныя рэформы заўсёды дыскамфортныя, але калі іх правесці прадумана ды энергічна, то, як кажуць эксперты, плён можна атрымаць цягам некалькіх гадоў. Іначай кажучы, эфектыўныя пераўтварэнні цалкам магчыма ажыццявіць акурат да 2024 года, калі Расія скончыць падатковы манеўр і Беларусі непазбежна давядзецца купляць нафту па сусветных цэнах.

Так што не наеўся – не наліжашся. Чым выпрошваць крошкі з маскоўскага стала, лепей метадычна, упарта, крок за крокам ісці шляхам эканамічнай трансфармацыі. Змяншаць і перайначваць стратны дзяржсектар, на практыцы (а не збольшага на паперы) разнявольваць бізнес, смялей рабіць стаўку на IT-сферу.

Вунь у Парку высокіх тэхналогій сядзяць кемлівыя людзі пры камп’ютарах ды робяць без аніякіх расійскіх падачак інтэлектуальны прадукт, які з рукамі адрываюць “праклятыя буржуіны” – і Еўрасаюз, і Амерыка. Вось яна, мадэль будучыні для нашай не надта багатай рэсурсамі, але багатай мазгамі, талентамі зямлі.

Сёння ж самае элементарнае – аднавіць замарожаныя перамовы з МВФ. Вунь расійскі прэм’ер Мядзведзеў папракае Беларусь выдадзенымі крэдытамі, а МВФ жа быў гатовы даць грошы пад значна меншы працэнт пры ўмове разумных, збалансаваных рэформаў. Але ж тут зладзілі лямант: гвалт, тушы святло, бесчалавечны фонд патрабуе камуналку павысіць! Дык вы ж і так яе гоніце да 100%! Тады ўжо не проста дзярыце грошы, а дамаўляйцеся з МВФ ды ладзьце нарэшце тыя рэформы. Звышзадача – эканамічна адвязацца ад Масквы, саскочыць з яе нафтагазавай іголкі.

І гэтак жа важна пачаць рэформы ў грамадска-палітычнай сферы. Сёння беларускае кіраўніцтва спадзяецца, што пашэнціць неяк дамовіцца па паняццях з Пуціным ды разруляваць канфлікт. На крайні выпадак, калі Масква пачне лупіць з усіх прапагандысцкіх ствалоў, то Мінск мае рубільнік, каб адключыць тэлеканалы.

Аднак любы кампраміс з імперыяй будзе хісткі і часовы. З ёй не дамовішся, як нельга дамовіцца з алігатарам. А калі распачнецца сапраўдная інфармацыйная вайна, то рубільнік не ўратуе. І нават без вайны “русский мир” будзе ўлазіць у нашу інфармацыйную прастору ціхай сапай.

Так, варта абмяжоўваць кантэнт расійскіх тэлеканалаў, замяшчаць айчынным. Але за дзень гэта не зробіш і наглуха ад усходняга суседа ўсё адно не адгародзішся. Найлепшы сродак ад імперскай прапаганды – моцная нацыянальная свядомасць. А дзеля гэтага трэба перабудоўваць адукацыю, звяртацца да багаццяў нашай мовы, культуры, гісторыі, развіваць грамадзянскую супольнасць і палітычны клас. Толькі праз гэта грамадства здолее адужаць каланіяльны сіндром, ментальна адвязацца ад Масквы.

Зразумела, кіроўным вярхам страшна разгойдаць сістэму. Але тут трэба выбіраць між двума страхамі. Калі тупа чакаць з мора пагоды, то прыйдзе імперыя, і цяперашнюю кіроўную вярхушку ўсё адно знясуць, прычым без цырымоній.

Рэформы ж хоць і ствараюць момант турбулентнасці, рызыкі для ўлад, але даюць перспектыву краіне, даюць апору незалежнасці. Дык дакажыце, што вы дбаеце пра Беларусь, а не толькі пра свае крэслы. Тым болей што і крэслы маскоўскі бот з-пад вас выб’е.

**ВИЗИТ**



# Беларусь поможет Зимбабве одеть и накормить людей

Вчера в Минске находился с официальным визитом президент Зимбабве Эммерсон Мнангагва. Переговоры прошли в расширенном составе.

Поскольку в Зимбабве первоочередная проблема – это «как одеть и накормить людей», то Александр Лукашенко сказал, что Беларусь готова оказать в этом помощь. Наша страна может построить в южноафриканском государстве мясо-молочные комплексы, организовать выращивание и переработку овощей. Возможно участие белорусских компаний в сооружении гидроэнергетических объектов, в проведении геологоразведки и разработке полезных ископаемых.

В ходе переговоров затрагивались и многие другие аспекты двустороннего сотрудничества.

## *16 интересных фактов о Зимбабве*

Зимбабве – расположенная в южной части Африки страна, не имеющая выхода к морю. Интересна история ее названия. Ранее на этих землях располагалась империя Мономотапа, столица которой называлась Зимбабве. История этих краёв очень интересна, но она так богата на события, что представляет собой тему для отдельного исследования.

1.Национальная валюта Зимбабве с 2009 года – доллар США.

2.В Зимбабве ежегодно проходит конкурс на звание самого некрасивого мужчины страны с призовым фондом в пятьсот долларов.

3.Знаменитый на весь мир водопад Виктория находится на границе Зимбабве и Замбии.

4.Одна из крупнейших рек на территории страны также носит название Зимбабве.

5.До 1980 года Зимбабве являлась колонией Великобритании и называлась Южная Родезия.

6.Тут расположено одно из крупнейших в мире искусственных озер – озеро Кариба. Оно весьма популярно у туристов, которых, впрочем, в Зимбабве немного.

7.Население – более 16 миллионов человек. Средняя продолжительность жизни в Зимбабве – около сорока лет.

8.Значительную долю дохода страны составляет экспорт кофе, по производству которого она занимает одну из лидирующих позиций в мире, как Мадагаскар – по производству ванили.

9.На гербе Зимбабве можно увидеть автомат Калашникова.

10.Первый президент страны носил фамилию Банан, и он даже издал закон, запрещающий шутки по поводу его фамилии.

11.До получения независимости от Англии Зимбабве была одним из самых развитых регионов Африки.

12.В 2009 году инфляция в Зимбабве составила 321 миллион процентов в год. Номиналы купюр доходили до ста триллионов зимбабвийских долларов. В результате правительство сдалось и полностью перешло на доллары США.

13.До обретения независимости доля белого населения на территории современной Зимбабве росла, а после отделения от Великобритании стала падать, и составляет сейчас менее одного процента.

14.Безработица в Зимбабве – около 80 процентов, то есть лишь один из пяти зимбабвийцев имеет работу.

15.В недрах Зимбабве таится огромное множество полезных ископаемых.

16.В национальной зимбабвийской кухне практически не используются овощи и фрукты, зато пользуется популярностью мясо крокодила.




**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

## З’явіцца беларуска-кітайскі ўніверсітэт?

Беларуска-кітайскі ўніверсітэт можа з’явіцца на базе БДУ на працягу паўгода. Аб гэтым паведаміў рэктар БДУ **Андрэй Кароль**. Ён адзначыў: *“Сёння ў БДУ кожны дзясяты студэнт – іншаземец, кожны другі з іх – кітаец. Мы павінны ўлічваць гэтую сітуацыю і выбудоўваць адпаведную стратэгію навучання. Мы таксама павінны падрыхтаваць выкладчыцкія кадры. Вось нашы першачарговыя задачы ў гэтай галіне, і мы сумесна з Міністэрствам адукацыі іх вырашаем”*, – падкрэсліў рэктар БДУ.

**Ася РОГАЧ.**

**АБЗАЦАМ**

## Стоп!

Міністэрства інфармацыі абмежавала доступ да 15 інтэрнэт-рэсурсаў, на якіх размяшчалася інфармацыя «аб продажы наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў», паведамляе прэс-служба ведамства.

## Наклалі 10 швоў

У Гродне на першакласніка напаў байцовы сабака. Хлопчык вяртаўся дадому са школы, і ля пад’езда на яго накінуўся суседскі стафардшырскі тэр’ер, якога выгульваў вучань трэцяга класа. На шчасце, побач апынуўся дарослы мужчына, які адцягнуў сабаку ад дзіцяці.

У хлопчыка рваныя раны твару, каля вока яму наклалі 10 швоў, і пакуль не вядома, ці захаваецца зрок.

## За краты – з дзецьмі

У папраўчай калоніі №4 у Гомелі адкрылі інтэрнат, дзе асуджаныя жанчыны змогуць знаходзіцца са сваімі дзецьмі да 3 гадоў, паведамляе МУС. Там таксама ўладкавалі ўчастак для ўтрымання асуджаных, якім яшчэ няма 18 гадоў.

## Футбола не будзе…

У Партызанскім раённым судзе Мінска быў абвешчаны прысуд паўабаронцу футбольнага клуба «Крумкачы» Алегу Дыбалю. Яго прызналі вінаватым у захоўванні і распаўсюджванні наркотыкаў і пакаралі 9 гадамі пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

**ІНІЦЫЯТЫВА**

Павел БЕЛАВУС:

# «Стадыён «Дынама» – лепшае месца для такога свята»

*Адзін з арганізатараў Дня Волі – 2019 распавёў “Народнай Волі” пра тое, чаму ў гэтым годзе святкаванне ў Мінску плануецца правесці на спартыўнай арэне.*

На гэтым тыдні аргкамітэт па святкаванні 101-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі падаў у Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне Дня Волі.

Арганізатары прапануюць шэсце ад вуліцы Кастрычніцкай да стадыёна «Дынама» з мітынгам і канцэртам. Іншая справа, ці зацвердзяць гарадскія ўлады такі сцэнарый Дня Волі.

– Падалі заяўку ў Мінгарвыканкам і адначасова ўжо праводзім падрыхтоўчую працу да святкавання Дня Волі, – кажа **Павел БЕЛАВУС**. – Рыхтуем сайт, дамаўляемся з артыстамі, збіраем сродкі…

**– Калі аргкамітэт пачаў падрыхтоўку?**

– Мы пачалі працу за 100 дзён да Дня Волі. Яшчэ ў снежні запусцілі сайт і пачалі збор сродкаў. Зараз шукаем валанцёраў, распрацоўваем фірмовы стыль.

**– Колькі сродкаў спатрэбіцца на правядзенне мерапрыемства?**

– У мінулым годзе на святкаванне Дня Волі спатрэбілася каля 60 тысяч рублёў, але зараз усё будзе залежаць ад таго, якую нам пляцоўку прадаставяць. Да таго ж у гэтым годзе хочам, каб паралельна святкаванні праходзілі і ў абласных гарадах, таму фінальны бюджэт яшчэ не вызначаны.

Будзем звяртацца і да буйнога бізнесу, і да звычайных людзей. Калі не будзе хапаць сродкаў, то ад нечага давядзецца адмаўляцца. Дарэчы, на дадзены момант ужо сабралі каля 7 тысяч рублёў.

**– Чаму ў гэтым годзе вырашылі правесці святкаванне Дня Волі на сталічным стадыёне “Дынама”?**

– Мы вырашылі, што гэта лепшае месца для такога свята. Па-першае, сімвалічна, што 30 гадоў таму на гэтым жа стадыёне адбыўся вялікі легальны мітынг, на якім былі ўзняты бел-чырвона-белыя сцягі.

Па-другое, на арэне ў тэхнічным плане ўсё выдатна падрыхтавана для правядзення масавага мерапрыемства.

Трэцяе – відовішчнасць. Зараз неабходна казаць пра важнасць незалежнасці, пра яднанне нацыі. І неабходна, каб пра гэта пачула як мага больш людзей.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

Елена МОЛОЧКО

# Корова, городовой, пожарник…

## А когда же поставят памятник Василю Быкову?

Минск наводнили бронзовые человечки. Я назвала бы их скульптурными игрушками (не всегда высокого художественного качества): почтальон, фотограф, зодчий, клоун, дровосек, дворник... Плюс милые домашние животные: из самых последних – корова в венке у Комаровского рынка. Мило. После строгой монументальной пропаганды советского периода даже забавно. Но время идет, игрушек все больше, и начинается… отрыжка. Как после переносыщения. В столице явный переизбыток бронзовой безделицы.

Вот, например, тот же памятник городовому – не к ночи будь сказано. Почему он вообще почти два года назад появился в центре столицы? Просто министру захотелось? И этого достаточно? А завтра на Городском Валу откроется памятник пожарному… Здесь точно сам министр МЧС отмашку давал – по крайней мере скульптор Юрий Онушко, автор этого «Огнеборца», так рассказывал в своем интервью.

Похоже, каждое ведомство теперь имеет право ставить в честь своей профессии любые монументы, любые украшения. Ну, кто еще кроме МВД и МЧС у нас богаты? Например, стоматологи. Представляете, в скором времени появится на одном из проспектов какой-нибудь «Зубодер»? Или вот айтишники хорошо зарабатывают. Композиция «человек перед компом» – никого вокруг не вижу, ничего не слышу – нас, горожан, устроит? А ведь ребята, если скинутся, смогут поставить себе все что угодно, у них средства есть. Но если без шуток, вам не кажется, что эта монументальная вольница уже на грани фола, на грани вкусовщины? В конце концов, у Мингорисполкома должен быть какой-то более-менее стройный план монументальной пропаганды (и не надо бояться этого пафосного слова). Сегодня получается, как на базаре: есть спонсор – есть памятник. А нужен ли он городу и белорусскому миру?

На мой взгляд, в игре с бронзой пора сделать передышку. И обсудить с обществом, кому действительно надо поставить в Минске памятник в первую очередь. Вне всякого сомнения, это должен быть памятник народному писателю Василю Быкову. Настала пора. И белорусские художники уже делают первые попытки, хотя эскизы еще очень сырые. Конечно, творческую фигуру такого масштаба, как Василь Владимирович Быков, впитавший все противоречия и боли XX века, очень трудно решить пластически точно и эмоционально ярко. Нужен талант почти такого же уровня, каким обладал писатель. Что ж, надо объявлять большой конкурс! Пусть он проходит и год, и два – главное, чтобы государство официально запустило идею и выбрало для памятника центральное место в городе. А уж никак не закуточек около бывшего Дома литератора, где как будто бы планировалось поставить памятник.

Конечно, Быков заслужил площади. И центральной улицы своего имени, а не какой-то околицы в микрорайоне. Вот есть в Минске улица Куйбышева – она идет параллельно проспекту Независимости. Чем нам дорого имя российского революционера? В общем, ничем, в Беларуси «боец с душой поэта» не бывал. На его родине в России давно нет города Куйбышева, на географическую карту вернулась Самара. То есть россияне смогли переименовать целый город, чтобы вернуть ему историческое название. Почему бы нам, белорусам, не переименовать всего лишь одну транспортную магистраль в центре, не отдать ее под имя человека, которого любит и помнит наша страна?

У нас с вами не так много бесспорных авторитетов в истории. Но Быков точно один из них. И его знают во всем мире. Да что я, собственно, урок по литературе вам провожу… Мне кажется, не найдется ни одного белоруса, который был бы против памятника Быкову. Единственное – неловко может быть сегодняшней власти: писатель с ней общего языка не нашел, если не сказать жестче. А вот, думается мне, если бы в это же время жили Колас и Купала, они бы во всем поддакивали президенту? Сомневаюсь… У политиков и духовных пастырей разные трибуны, разный слушатель: у первых – электорат, у вторых – народ.

В общем, если есть имя, которое может объединить наше общество сегодня, так это Василь Быков. И поэтому шар сейчас, как принято говорить, на стороне власти – а люди давно готовы и ждут памятника любимому писателю.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Почти 50 тысяч долларов взяток…

*Во всех судебных процессах по «делу медиков», которые проходят в Минске, фигурирует директор фирмы-поставщика медицинской техники ОДО «Геол-М» Владимир Ладутько.*

Он щедро одаривал руководителей медучреждений и чиновника за сотрудничество со своей компанией, троим фигурантам, как анонсировалось, сенсационного дела о небывалых масштабах коррупции в системе здравоохранения передал суммарно 32 тысячи долларов и 15 тысяч евро. Не исключено, что Владимир Ладутько будет выступать свидетелем и в других процессах, еще должны состояться суды над несколькими главврачами и чиновниками от медицины. Но под уголовное преследование Владимир Ладутько не попал. Об этом он сам рассказал «Народной Воле».

Пообщаться с Ладутько удалось в коридорах суда Центрального района Минска во время судебного заседания по делу **Андрея Стрижака** – бывшего начальника управления здравоохранения Гродненского облисполкома. Во время допроса в качестве свидетеля Ладутько рассказывал, что был задержан 7 июня 2018 года по факту дачи взятки должностным лицам и сразу же написал на имя председателя КГБ **Валерия Вакульчика** явку с повинной. Совпадение или нет, но после этого чистосердечного признания и начались задержания. Так, Андрей Стрижак оказался за решеткой 19 июня. 13 июня был вызван на допрос в КГБ и оттуда уже не вышел аж до 13 октября главврач 12-й стоматологической поликлиники Минска **Владимир Кравчёнок.** В конце июля стало известно о задержании главврача Республиканского центра медицинской реабилитации и бальнеолечения **Сергея Корытько**, дело которого сейчас рассматривается в суде Заводского района Минска. Во всех этих процессах Ладутько – свидетель.

Когда «Народная Воля» уточнила у Владимира Ладутько, не задерживался ли он за дачу взятки, он ответил: *«Только как свидетель. Я самостоятельно обратился в следственные органы»*. К слову, согласно белорусскому законодательству, лицо, давшее взятку, которое затем во всем созналось, может быть освобождено от уголовного преследования.

На данный момент известно, что Владимир Ладутько в 2015 году дважды передавал взятки бывшему гродненскому чиновнику Андрею Стрижаку – каждый раз по 10 тысяч долларов.

В 2013-м и 2017 годах Ладутько благодарил за сотрудничество Владимира Кравчёнка. Суммы взяток – 10 тысяч долларов и 15 тысяч евро.



Сергею Корытько бизнесмен передавал деньги в апреле прошлого года – 2 тысячи долларов. Правда, его компания тогда тендер на закупку оборудования не выиграла. Но деньги обратно он не потребовал, заявил суду, что это не в его правилах.

Свидетельствуя в суде по делу Стрижака и по делу Корытько, Владимир Ладутько описывал, как передавались деньги. Обычно после завершения сделок по закупке оборудования за чашечкой кофе или просто на автостоянке у торгового центра. Назначая дату встречи, он никогда не говорил, зачем приглашает увидеться: мол, они сами понимали, *«зачем руководитель компании зовет на встречу»*. *«Это обычная практика»*, – рассказывал в судах Владимир Ладутько.

И наверняка он знал, о чем говорил. Компания «Геол-М» на белорусском рынке медицинской техники присутствует с 1998 года. Ее основал именно Владимир Ладутько, ему 64 года.

ОДО «Геол-М» – официальный дистрибьютор фирм-производителей и экспортеров медицинской техники из Японии, Германии, России, Китая и других стран. Компания Ладутько поставляет в белорусские клиники эндоскопическое и стоматологическое оборудование, ультразвуковые сканеры, рентгеновские аппараты, различные расходные материалы, хирургический инструментарий и другие. Бизнес у Владимира Николаевича, судя по всему, идет хорошо. В суде он рассказывал, что его годовой заработок составляет 80–100 тысяч долларов. Ладутько живет в шикарном коттедже в районе частной застройки недалеко от парка Дружбы народов, ездит на дорогом «Мерседесе», производит впечатление респектабельного и уверенного в себе человека.

*«Это мои собственные деньги. … Сумма взятки ничем не подкреплялась. Решил, что этого достаточно»*, – так говорил Ладутько в суде, отвечая на вопрос гособвинителя **Максима Чуприса**, как он определял размер взятки для бывшего начальника управления здравоохранения Гродненского облисполкома Андрея Стрижака. Наверняка такими же принципами бизнесмен руководствовался, когда благодарил за сотрудничество с его фирмой и руководителей некоторых учреждений здравоохранения.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**На фото: Владимир Ладутько в суде.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Які вердыкт вынесуць Марыне Золатавай?

*Генеральная пракуратура накіравала справу галоўнага рэдактара TUT.by у Мінскі гарадскі суд.*

"Справа БЕЛТА" пачалася ў жніўні 2018-га, калі ў офісах TUT.by, БелаПАН, шэрагу іншых СМІ, па месцы жыхарства іх журналістаў і рэдактараў адбылісяператрусы. Затрымалі больш за дзясятак чалавек, якіх абвінавацілі ў несанкцыянаваным доступе да платнай падпіскі на навіны дзяржаўнага інфармагенцтва БЕЛТА. У выніку 14 фігурантаў з розных СМІ вызвалілі ад крымінальнай адказнасці і прыцягнулі да адміністрацыйнай. Журналісты былі囲 аштрафаваны, а таксама былі абавязаны кампенсаваць шкоду (сумы для кожнага налічылі ад 3 да 17 тысяч рублёў).

Золатава падавала хадайніцтва, каб і ёй замянілі крымінальную адказнасць на адміністрацыйную, але Следчы камітэт адмовіў. Яе абвінавачваюць у бяздзейнасці службовай асобы (ч.2 арт.425 КК).

*"Я лічу, што тут прайгралі ўсе,* – выказаўся пра гэтую справу на сайце baj.by уладальнік партала TUT.by **Юрый Зісер**. – *І перш за ўсё дзяржава, якой нанесены вялікі ўрон. Абсалютна зразумела, што санкцыі, якія прымянілі да журналістаў, ніяк не перакрываюць урон, які нанесла дзяржава. Нават у матэрыяльным плане: у офіс прыязджае цэлы аўтобус спецыялістаў, восем чалавек урываюцца ў кватэру Марыны Золатавай… Можна ўявіць, колькі людзей было задзейнічана ў гэтай аперацыі і задзейнічана зараз.*

*Іміджавыя страты яшчэ большыя: многія інвестыцыйныя планы і здзелкі з-за "справы БЕЛТА" адмяніліся, мільёны і дзясяткі мільёнаў долараў краіна не атрымае.*

*Тыя, хто жадаў нам пагібелі, не дасягнулі свайго, яны таксама прайгралі.*




*Партал наш таксама прайграў. Свабода слова таксама прайграла. Нават БЕЛТА прайграла: і іміджава, і страціла наш трафік. Я лічу, што тых, хто выйграў, тут проста няма. Усе прайгралі ў гэтай "справе".*

Праваабаронца **Валянцін Стэфановіч** мяркуе, што Марыне Золатавай будзе вынесены абвінаваўчы прысуд, не звязаны з пазбаўленнем волі.

*"Тое, што ўсе астатнія фігуранты прыцягнуты толькі да адміністрацыйнай адказнасці, гаворыць пра непрапарцыянальнае дзеянні ўлад у гэтай справе,* – кажа ён. – *Успомнім масавыя затрыманні журналістаў, накіраванне іх у ізалятар часовага ўтрымання на трое сутак... Навошта гэта трэба было рабіць? Якія мэты ўсё гэта пераследавала?*

*Што тычыцца суда над Марынай Золатавай, то, думаю, будзе абвінаваўчы прысуд, не звязаны з пазбаўленнем волі, таму што гэта было б ужо зусім верхам абсурду. У такім выпадку ўзнімуцца ўсе праваабарончыя арганізацыі і журналісцкая супольнасць не толькі ў Беларусі. У краіне адназначна з'явілася б яшчэ адна палітычная зняволеная, хаця справа і зараз прызнана палітычна матываванай".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТОЛЬКО ЦИФРЫ

# Как различаются зарплаты белорусов

Если данные о средних зарплатах в стране Белстат публикует каждый месяц, то статистику того, как различаются зарплаты белорусов, – раз в полгода, по итогам мая и ноября. Недавно на сайте ведомства была размещена информация о распределении численности работников организаций по размерам начисленной в ноябре зарплаты.

В наибольшую группу – 19,6 процента – попали работники, чьи зарплаты составляют от 600 до 800 рублей. По официальному курсу это приблизительно от 244 до 326 евро. Для сравнения: в Литве сегодня минимальная зарплата – 400 евро. Согласно положениям Трудового кодекса Литвы, минимальную зарплату в стране получает тот, кто занимается исключительно неквалифицированным трудом.

**Распределение численности работников организаций Республики Беларусь по размерам начисленной заработной платы в ноябре 2018 г. (в процентах к итогу)**

| | |
|---|---|
| Всего работников | 100 |
| в т. ч. работники, которым начислена заработная плата в размере, рублей: | |
| до 300,0 | 3,0 |
| от 300,1 до 400,0 | 10,9 |
| от 400,1 до 500,0 | 10,5 |
| от 500,1 до 600,0 | 10,6 |
| от 600,1 до 800,0 | 19,6 |
| от 800,1 до 1000,0 | 15,9 |
| от 1000,1 до 1500,0 | 19,3 |
| от 1500,1 до 2000,0 | 5,8 |
| от 2000,1 до 3000,0 | 2,8 |
| от 3000,1 до 5000,0 | 1,0 |
| от 5000,1 до 7000,0 | 0,3 |
| от 7000,1 до 10.000,0 | 0,2 |
| свыше 10.000,0 | 0,1 |

*Для справки.* По данным Белстата, в ноябре 2018 года в экономике Беларуси было занято 4 миллиона 349,4 тысячи белорусов.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Раскрытыкавалі чыноўнікаў…

Завяршылася грамадскае абмеркаванне генплана развіцця Гродна на бліжэйшыя 10 гадоў. Чыноўнікам давядзецца яго дапрацоўваць.

### Роварная інфраструктура – сусветная тэндэнцыя

Актывістка грамадскага аб'яднання "ВелаГродна" **Юлія Каляда** звярнула ўвагу на тое, што ў генеральным плане ў раздзеле "Развіццё транспартнай інфраструктуры" чамусьці не вылучаны падраздзел "Роварны транспарт", які мусіць уключаць таксама і схему ўнутрыгарадскіх маршрутаў.

Юлія ўпэўнена: такія рэчы сёння нельга ігнараваць, паколькі развіццё роварнага руху ў гарадах зараз ужо не толькі еўрапейская, а і сусветная тэндэнцыя. У апошнія гады ў беларускіх СМІ шмат пра гэта пісалася, але ўлады надавалі мінімум увагі развіццю роварнай інфраструктуры.

Роварная інфраструктура ў Гродне, адзначае Юлія, толькі пачынае шлях станаўлення, таму спыніцца з яе развіццём ні ў якім выпадку нельга.

### Горад павінен мець ясную перспектыву аднаўлення страчаных кварталаў

Гісторык, аўтар кнігі па гісторыі і архітэктуры Гродна **Андрэй Вашкевіч** найперш канстатуе, што ў апошнія гады сітуацыя з захаваннем архітэктурнай спадчыны ў Гродне яўна змянілася ў лепшы бок. Паводле яго слоў, у цэнтры горада амаль не засталося пустых пабудоў, а рэстаўрацыя і адбудова старых будынкаў адбываецца на даволі добрым узроўні.

*"Я звярнуў увагу на тое, што ў генеральным плане не прапісана аднаўленне страчаных кварталаў ў цэнтры Гродна,* – падкрэсліве Вашкевіч. – *У генплан трэба*




*абавязкова закласці перспектыву іх аднаўлення. Першы крок, здаецца, ужо зроблены – вуліца Замкавая. Далей вельмі хацелася б, каб паўстаў страчаны квартал за сінагогай і квартал побач з былым піўзаводам".*

Гісторык упэўнены, што дзякуючы аднаўленню толькі гэтых кварталаў можна было б нарасціць гістарычны цэнтр, што сёння з'яўляецца вельмі запатрабаваным. Ён звяртае ўвагу на тое, што ў генплане нідзе дакладна не прапісана адмова ад будавання транспартнай артэрыі – дублёра Вялікай Траецкай па верхняй тэрасе рэчкі Гараднічанкі. Вашкевіч падзяляе меркаванне тых, хто супраць падобнай транспартнай артэрыі, паколькі яна можа вельмі адмоўна паўплываць на развіццё старой часткі горада: давядзецца знесці кашто\u045eныя старыя будынкі, замест таго каб адкрываць дадатковыя пешаходныя вулачкі.

Яшчэ адна з прапаноў гісторыка – забараніць будаваць будынкі вышэй за 7–9 паверхаў на левым беразе Нёмана непасрэдна насупраць гістарычнага цэнтра Гродна. Гэта важна для захавання непаўторнага гродзенскага краявіду з боку старога горада.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На фота: раварысты ў старым Гродне.**

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# «Белорусский медиарынок должен принадлежать белорусам…»

*Белорусские чиновники, похоже, не хотят пускать на белорусский радиовещательный рынок крупных российских игроков. Именно так можно объяснить отказ открыть радиостанцию «Спорт FM». Не исключено, что «Спорт FM» создается на российские деньги, а известных белорусских спортсменов могли использовать в качестве лоббистов российского проекта по скрытому захвату рынка белорусского FM- радиовещания... «Народная Воля» попыталась выяснить, кто стоит за нашими известными спортсменками, кто готов был финансировать новую радиостанцию, на которую в год нужно минимум полмиллиона долларов.*

## О проекте

Предполагалось, что директором новой спортивной радиостанции должна стать бывшая биатлонистка национальной сборной Беларуси **Надежда Скардино**. Среди учредителей радиостанции – олимпийская чемпионка **Александра Герасименя**, а также некоторые бывшие и действующие известные спортсмены.

К вещанию новой радиостанции «Спорт FM» планировали приступить в канун Европейских игр.

Инвестором проекта выступил владелец компании «Сигмаполюс» **Виталий Синицкий**. ООО «Сигмаполюс» занимается строительством недвижимости, возводила бизнес-центры Трюм», «Тивали» и другие. Офис компании располагается в центре «Титан» на проспекте Дзержинского. В этом же здании располагается и офис будущей радиостанции «Спорт FM».

**Надежда Скардино** в интервью «Трибуне» сказала, что радиостанция – скорее социальный проект, «*здесь бизнеса с колоссальной рентабельностью не предвидится*». «*Большие деньги на радиорынке заработать невозможно*, – говорила Скардино. – *Это скорее имиджевая вещь, которая также может быть одним из инструментов продвижения основного бизнеса*».

«*И тем не менее мы намерены за год-два выйти на самоокупаемость и на третий год получать прибыль*, – говорила в прессе о финансовых перспективах **Александра Герасименя**. – *В перспективе своей целью видим создание не только радио, но и спортивного портала*».

Готов ли бизнесмен **Виталий Синицкий** ежегодно тратить как минимум полмиллиона долларов на радиостанцию? Рассматривает ли радиостанцию как долгосрочный проект и уверен ли в своих финансовых возможностях? Имеет ли отношение к финансированию создаваемой радиостанции российский капитал?

«Народная Воля» хотела услышать ответы на эти вопросы от самого Виталия Иосифовича, но он недоступен для комментариев.

На днях в интернете появилась информация о том, кто входит в состав ООО «Спортивная медийная группа», которая создает новую радиостанцию. Анонимный телеграмм-канал «Паца-ваца» сообщил: «*В Мининформ обратилось ООО «Спортивная медийная группа» – учредители Синицкий В.И. 40%, Герасименя А.В. – 30%, Скардино Н.В. – 30% – они предлагают открыть три ФМ станции («Спорт FM», Europa+, Energy).*

*Учредителем первой станции выступает ООО «Спортивная медийная группа», а две остальные – ООО «Элэсджи медиа», учредители Лапицкий О.В. – 50%, Синицкий В.И. – 40%, гражданин РФ Таллер В.М. – 10%. Эти три радиостанции + Интернет-сайт «Спорт Беларусь» объединяют в спортивный медиахолдинг, который якобы станет мощным информационным проводником политики государства в области спорта и здорового образа жизни.*

*«Европа+» и «Энерджи» позиционируются как белорусские, но по факту это одноименные российские радиостанции. «Спорт FM» – это тоже российская «Спорт FM», которая переименована в studio 21. Europa+ и studio 21 входят в ООО «Европейская медиагруппа» – принадлежит Уральской горно-металлургической компании.*

*Energy входит в состав «Газпром-медиа радио», которая является частью «Газпром-медиа холдинга».*

*При этом в предоставленной концепции медиахолдинга тематике спорта посвящено 15%».*

## Чиновники не дали добро на открытие новой радиостанции

В Министерстве информации со ссылкой на коллег из Министерства связи и информатизации на этот вопрос отвечают однозначно: нет доступной частоты.

Чиновники, с которыми удалось пообщаться, говорят так: «*В Беларуси работает больше полутора сот радиостанций, из них только в Минске – 23. Некоторые подпитываются за счет бюджетов, другие живут исключительно за счет рекламы. Объем рекламного рынка оценивается приблизительно на уровне 10 миллионов долларов в год. Рынок небольшой, но интересный. Может, даже не столько этими деньгами, сколько своей огромной аудиторией. Пару лет назад сюда пытался зайти российский «Спутник», но у них не вышло получить радиочастоту – ее не было. Сейчас радио «Спутник» вещает в онлайне.*

*Радиостанция с названием «Спорт FM» до недавнего времени работала в России, входила в состав «Европейской медиагруппы», владельцами которой являются Уральская горно-металлургическая компания и Сибирский деловой союз. Накануне Олимпиады 2014 года «Спорт-FM» была на плаву, денег на нее не жалели. А после Олимпиады, грубо говоря, накрылась медным тазиком – не выжила на медиарынке. Владельцы в итоге перепозиционировали ее в развлекательно-музыкальную Studio 21, рассчитанную на молодежь.*

*Создатели новой белорусской радиостанции в своих интервью фактически признают, что «Спорт FM» не будет прибыльным проектом, но почему-то умалчивают о том, что просят открыть сразу три FM-станции! И кого они хотят привести на белорусский рынок в качестве «подпорок» под спортивное СМИ? Судя по концепции, радиостанцию «Европа+», которая в России занимает стабильно вторую строчку во всех рейтингах и принадлежит вышеупомянутому уральскому олигархическому союзу, который, кстати, уже несколько раз пробовал зайти на наш рынок. А также газпромовское радио ENERGY, занимающее 6–9-ю строчки в российских рейтингах. Они якобы нужны в качестве финансовых доноров для социального проекта в виде «Спорт FM», раз, мол, бюджетных денег не просим…*

*Ну, и что останется от белорусского радиовещания, когда сюда придут рейтинговые российские радиостанции? Ясное дело, их доля на рынке рухнет, что ударит в том числе и по небольшому на сегодняшний день белорусскоязычному вещанию. Дальше – больше: после того как закончатся Европейские игры, хозяева радиостанции «Спорт FM» запросто могут заявить о том, что она убыточная, а у нас по законодательству без проблем можно поменять концепцию вещания (как оно в России и случилось) и завести сюда еще что-нибудь коммерчески интересное, но не наше, разумеется. Поэтому тут главное – получить радиочастоту.*

*Но если «Газпром-медиа» и «Европейская медиагруппа» получат значительную часть белорусского радийного рынка, не исключено, что дальше они начнут распределять рекламные доли рынка, делить бюджеты. Это означает конец всех более-менее сильных белорусских радиостанций…*

*Кому это надо? Белорусам – точно нет. Так что вполне может быть, что налицо неудавшаяся попытка российского олигархического капитала захватить наш радиовещательный рынок.*

*А что касается спортивного вещания, то где примеры успешных спортивных радиостанций? Белорусские средства массовой информации и так не обделяют спорт своим вниманием. Безусловно, нам надо наращивать качество освещения спортивной тематики, но явно не экспериментировать с радиотрансляциями футбольных матчей в стиле славного, но далекого прошлого.*

*Кстати, руководство существующих отечественных радиостанций весьма настороженно относится к приходу на наш рынок, например, радио «Европа+». Все понимают, что это катастрофа! Так что «Спорт FM» – лишь видимая часть айсберга, а под ней – мощные российские радиостанции. Некоторые, кстати, по факту уже работают на белорусском рынке – через своих «надежных белорусских партнеров». В том числе есть и клоны радиостанций, входящих в «Газпром-медиа», которые застолбили немалый кусок белорусского рынка. Видимо, кому-то захотелось больше?..*

*Свое радиовещание надо развивать, белорусское, причем не по формальным признакам, а по факту. И защищать медиапространство. Белорусский медиарынок должен принадлежать белорусам – тут нет ничего нового, так поступают во всех странах, даже братских…»*

КОММЕНТАРИЙ



### Александра ГЕРАСИМЕНЯ:
## «Будем обсуждать, что делать дальше...»

*«Народная Воля» попросила прокомментировать позицию чиновников известную спортсменку Александру Герасимену, которая является одним из учредителей создаваемой радиостанции «Спорт- FM».*

– Мы с самого начала не скрывали имена учредителей, инвесторов, готовых вкладывать средства в наш проект, а также то, что помимо «Спорт FM» на белорусский рынок придут еще несколько радиостанций. Это радиостанции-доноры. Мы на свой проект не просим денег у государства, и нам нужно его как-то окупать. Учитывая, что «Спорт FM» узкоспециализированная радиостанция, она не будет приносить огромной прибыли. Это скорее социальный проект, который требует поддержки со стороны. Поэтому необходимы станции-доноры, поддерживающие наш проект. Мы совершенно точно не собираемся гнать сюда российский новостной контент, мы планировали брать только музыку с «Европы+», и то не более 25 процентов.

**– А почему выбирали именно российские радиостанции?**

– Мы взяли тот контент, который сегодня слушают, который популярен. Мы проанализировали рынок и пришли к выводу, что это наиболее оптимальный и актуальный вариант. К тому же есть возможность заключить договор о поставке музыки на наш рынок.

**– Вы наверняка объясняли свою позицию в Министерстве информации, Администрации президента. Почему получили отказ?**

– Сложно сказать… Тем более что, когда мы общаемся с людьми, нам говорят одно, а на деле получается совершенно другое. Я больше скажу: мы готовы были даже идти на согласование всех наших программ, вещания. Мы абсолютно открыты.

**– А без станций-доноров ничего не получится?**

– Это сложно. И для того, чтобы вывести новое радио на окупаемость, первое время все равно нужна очень серьезная поддержка.

Не будет денег – не будет и возможности реализовать проект.

**– Не пропало у вас вдохновение заниматься этим проектом?**

– Энтузиазм есть, и проект, несмотря ни на что, хотелось бы реализовать. Но все зависит ведь не только от меня. Будем обсуждать, что делать дальше. Тем более мы и офис арендуем, и люди у нас работают. Надеюсь, о нашем проекте узнает глава государства и все-таки одобрит его.

**– Вас называют скрытыми лоббистами российского олигархического бизнеса…**

– Мы все давно знаем друг друга. Мы лоббируем только интересы нашей страны.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

## ОТ РЕДАКЦИИ

*Проанализировав ситуацию со всех сторон, становится очевидным: и Скардино, и Герасименя – прекрасные спортсменки, но, к сожалению, в данном случае им не хватило политического чутья. Как-то неубедительно звучат слова: «Мы все давно знаем друг друга. Мы лоббируем только интересы нашей страны». Скажите, как тогда понимать ваше горячее желание заключить союз с российскими акулами бизнеса, стремящимися к оккупации белорусского медиарынка? Ведь кто платит, тот и музыку заказывает. Давайте прямо скажем: московские воротилы затевают любое дело не только из чисто коммерческих соображений, но и исходя из имперских замашек. Так стоит ли класть палец им в рот? Мы что, не суверенное государство, не знаем, как осваивать информационное пространство с учетом национальных интересов? А потому не нужно уважаемым королевам спорта оплакивать случившееся, у них предостаточно других возможностей для самореализации.*

ВІНШУЕМ!

### Таццяна МАРХЕЛЬ:
# «Няхай будзе весела!»

*19 студзеня ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі адбудзецца сапраўдны "Таццянін дзень" – вечарам тут пройдзе юбілейны бенефіс народнай артысткі Беларусі Таццяны Мархель.*

*Папраўдзе, нават цяжка паверыць у тое, што Таццяне Мархель – 80!*

***"Няхай будзе весела!" – гаворыць пра фармат свайго юбілею Таццяна Рыгораўна. І адзначае, што юбілейная вечарына рыхтуецца амаль экспромтам.***



– Справа ў тым, што толькі днямі адбылася прэм'ера новага спектакля Аляксандра Гарцуева "Мудрамер", і ў мяне там невялічкая роля, – *распавяла Таццяна Мархель "Народнай Волі"*. – Але я да гэтай ролі вельмі рыхтавалася, шукала падыходы, каб атрымалася небанальна. Я іграю жанчыну, якая замаўляе дамавіну. Сама для сябе. І ёй вельмі хочацца, каб апошні прытулак быў прыгожым, зручным. Таму замаўляе мая гераіня яе з вялікім аптымізмам. І сыходзіць – быццам сапраўды ў новае жыццё. Вобраз атрымаўся вельмі светлы. Мне падаецца, што публіцы спадабалася – вельмі цёпла прыняла. Для мяне гэта вялікая радасць, бо новых роляў у тэатры ў мяне даўно не было. Таму я была занята толькі "Мудрамерам", а не падрыхтоўкай да юбілею. Але мы нейкі цікавы ход для бенефісу знойдзем! Пакоціцца, як тое жыццё!

**– Таццяна Рыгораўна, вы вялікая аптымістка па жыцці. І ў мяне ваш узрост па пашпарце неяк зусім не стасуецца з вамі. Нават няёмка гэтую лічбу агучваць у вашай прысутнасці…**

– Ой, я і сама гляджу на гэтую лічбу і думаю: ды не, праходзь міма! Гэта ўсё не пра мяне!

Увогуле, у мяне была думка закрэсліць гэты нуль, а перад васьмёркай намаляваць адзінку. Быццам бы мне не 80, а зноў 18!

**– А чыста па-жаночы ўзрост адчуваеце? Ну там маршчыны, здароўе і ўсё такое…**

– Калі мы з мужам разышліся, а гэта было шмат гадоў таму, мне падавалася, што я не вытрымаю, так цяжка было. І я вельмі доўга пакутавала, доўга паднімалася… Але я неяк сказала: пасля ўсяго перажытага я нарэшце сустрэлася з адным вельмі цікавым чалавекам, і мне стала лягчэй. Зірнула на свет іншымі вачыма. І гэты чалавек – я сама. Бо калі мы жылі разам з мужам, то ўсё рабілася для яго. І не таму, што я такая добрая, а таму, што я эгаістка і мне было прыемна так рабіць. А гэта няправільна. Але я была шчаслівая, калі бачыла, як ён расце.

А калі здарыўся развод, я была ў поўнай роспачы, не магла нават дыхаць. Але дзеці былі, дзеля іх трэба было…

Ай, нейкая неюбілейная размова атрымліваецца! Карацей, я сустрэлася сама з сабой. І мне вельмі хораша жыць. Вакол мяне – Божы свет, птушкі, цудоўная прырода. Я атрымліваю асалоду ад кожнай хвіліны!..

**– Не сакрэт, што некаторыя жанчыны пакутуюць ад таго, што побач няма надзейнага мужчыны, моцнага пляча…**

– Я не маю гэтага пляча ўжо больш за 30 гадоў і адпакутавала з гэтай нагоды даўным-даўно! Цяпер у мяне свае моцныя плечы. Прывыкла сама з усім спраўляцца. Я вясковая дзяўчына, усё магу. І бачыла, як мая мама сама траіх дзетак на ногі паставіла, і грошай у калгасе не было, і ніхто асабліва не дапамагаў. Усё сама! І ўсе выжылі.

**– А для душы, для сэрца?**

– Ну не зусім я ўжо засохлая кветка! І магу расказаць пра гэта таксама, але – давайце іншым разам…

**– Таццяна Рыгораўна, ад душы вам зычу здароўя і новых вялікіх роляў!**

– Дзякуй!

**Марына КОКТЫШ.**

